# КОНТУРНЫЯ КАРТЫ

**9 клас**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

## канец XVIII – пачатак XX ст.

*Рэкамендавана Навукова-метадычнай установай „Нацыянальны інстытут адукацыі“ Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*





№1.

Наша Доля

выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литерами.



Наш палетак.


МІНСК
„БЕЛКАРТАГРАФІЯ“
2016

## Правілы работы з контурнымі картамі

1. Прачытайце адпаведны параграф падручніка і знайдзіце ў атласе „Гісторыя Беларусі канец XVIII – пачатак XX ст.“ (Белкартаграфія, Мінск, 2016) неабходныя карты, азнаёмцеся з умоўнымі абазначэннямі, схемамі, малюнкамі і дадатковым тэкстам.

2. Прачытайце заданне і вызначце парадак яго выканання.

3. Пазнаёмцеся з умоўнымі абазначэннямі, якія сустракаюцца на контурных картах. Калі неабходна, падбярыце свае ўмоўныя знакі для выканання задання і пазначце іх побач з заданнем.

4. Пры нанясенні аб'ектаў на карту прытрымлівайцеся дакладнасці іх месцазнаходжання з дапамогай арыентацыі па берагавой лініі мора, азёр, па рэках, па межах дзяржаў.

5. Надпісы на карце выконвайце спачатку простым алоўкам, а пасля праверкі – каляровымі алоўкамі, або ручкай. Пры запаўненні карты трэба ўлічваць, каб надпісы і ўмоўныя знакі не перашкаджалі адзін аднаму. Асобныя тэрыторыі замалёўвайце роўным, нияркім колерам, а межы абазначайце яркімі, выразнымі лініямі.

6. Заданні-пытанні выконваюцца непасрэдна пад заданнем на адведзеных для гэтага лініях.

### Умоўныя абазначэнні

- Межы дзяржаў
- Межы губерняў Расійскай імперыі
- Межы паветаў Расійскай імперыі
- Межы іншых тэрыторый
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
- Сталіцы дзяржаў
- Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
- Іншыя населеныя пункты

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫ ПАДЗЕЛ БЕЛАРУСІ ў пачатку XIX ст.




Маштаб 1:4 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Чырвонай рысай – межы Рэчы Паспалітай да яе падзелаў.
2. Аранжавай рысай – заходнюю мяжу тэрыторый, якія адышлі да Расійскай імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай.
3. Жоўтым колерам – тэрыторыю, якая адышла да Расійскай імперыі паводле Тыльзіцкага міру 1807 г.
4. Чырвонымі кружкамі – цэнтры губерняў; карычневымі літарамі – іх назвы.
5. Рысамі – губерні, якія ўваходзілі ў склад ваенных губернатарстваў: а) Беларускага – зялёнай; б) Віленскага – блакітнай; в) Кіеўскага – жоўтай.
6. Назвы губерняў, у межы якіх уваходзілі беларускія землі ў пачатку XIX ст.

## НАШЭСЦЕ НАПАЛЕОНАЎСКАЙ АРМІІ НА РАСІЮ (чэрвень–кастрычнік 1812 г.). ВЫГНАННЕ НАПАЛЕОНАЎСКАЙ АРМІІ З РАСІІ (кастрычнік–снежань 1812 г.)




Маштаб 1:8 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Заштрыхаванымі аваламі – месцы разгортвання армій на пачатак вайны: а) расійскай – чырвонымі; б) напалеонаўскай – сінімі.
2. Назвы расійскіх армій, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі ў чэрвені 1812 г.
3. Чорным трохвугольнікам – умацаваныя лагеры расійскіх войскаў.
4. Чорнай чатырохвугольнай зоркай або ромбікам – расійскія крэпасці ў 1812 г.
5. Населеныя пункты Беларусі, праз якія адступалі летам 1812 г. расійскія арміі.
6. Скрыжаванымі мячамі – месцы асноўных бітваў на тэрыторыі Беларусі з перамогай: а) расійскіх войскаў – чырвоным; б) напалеонаўскіх войскаў – сінім.
7. Зялёным сцягам з датай – месца злучэння 1-й і 2-й Заходніх расійскіх армій.
8. Заштрыхаванымі аваламі – месцы сканцэнтравання войскаў у кастрычніку 1812 г.: а) расійскіх – аранжавымі; б) напалеонаўскіх – блакітнымі.
9. Белым сцяжком з датай – месца, дзе Напалеон пакінуў армію і паехаў у Парыж.

# ПАДЗЕІ ВАЙНЫ 1812 г. НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ




Маштаб 1:4 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Зялёнай тоўстай рысай – мяжу Вялікага Княства Літоўскага, якое падпарадкоўвалася Камісіі часовага кіравання ў 1812 г.
2. Чырвонай рысай – цэнтры дэпартаментаў, якія падпарадкоўваліся Камісіі часовага кіравання ВКЛ.
3. Блакітнай рысай – межы зоны кантролю французскіх войскаў летам 1812 г.
4. Карычневым колерам – тэрыторыі беларускіх губерняў, якія ў 1812 г. кантралявалі расійскія войскі.
5. У рамцы – назву горада, у якім было абвешчана стварэнне Камісіі часовага кіравання (Часовага ўрада) ВКЛ.
6. Гарады Беларусі, дзе ў 1812 г. фарміраваліся вайсковыя адзінкі ВКЛ.

Адкажыце на пытанне:

Хто з былых дзяржаўных дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага ўзначаліў Камісію часовага кіравання ВКЛ у 1812 г.? ______________________

______________________________

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ РУХ у 20–50-я гады XIX ст. ПАЎСТАННЕ 1830–1831 гг. НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ




Маштаб 1:5 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Жоўтай чатырохвугольнай зоркай або ромбам – месцы дзеяння тайных таварыстваў.
2. Каронай з мячамі – месцы выступленняў: а) „ваенных сяброў“ – чорнай; б) „Таварыства аб'яднаных славян“ – сіняй.
3. Чорнай рамкай з чырвонымі літарамі – месца і дату пачатку паўстання 1830–1831 гг.
4. Белым сцяжком – месца знаходжання Часовага паўстанцкага ўрада.
5. Чырвонымі кружкамі – цэнтры паўстання на тэрыторыі беларускіх губерняў.
6. Месцы асноўных баёў з перамогай: а) паўстанцаў – чырвоным; б) урадавых войскаў – фіялетавым.
7. Кружком з ромбам – горад на тэрыторыі Беларусі, у якім дзекабрысты рыхтавалі паўстанне.
8. Датай – горад, у якім адбыўся царкоўны сабор, што абвясціў пра далучэнне ўніяцкай царквы да праваслаўнай.

# ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ ў першай палове XIX ст.




Маштаб 1:4 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Населеныя пункты, у якіх былі заснаваны:
а) першыя фабрыкі – жоўтым квадрацікам; б) цукровыя прадпрыемствы – чырвоным трохвугольнікам; в) асноўныя кірмашы – зялёнай зорачкай.

2. Чырвонай стрэлкай – шляхі вывазу тавараў. Над стрэлкай – назвы асноўных тавараў, якія вывозіліся з беларускіх губерняў у першай палове XIX ст.

3. Блакітнай стрэлкай – шляхі ўвозу тавараў. Над стрэлкай – назвы асноўных тавараў, якія ўвозіліся ў беларускія губерні ў першай палове XIX ст.

4. Карычневым колерам – тэрыторыі Расійскай імперыі, дзе прыгоннае права было адменена ў пачатку XIX ст.

Адкажыце на пытанні, выканайце заданні:

1. У якіх беларускіх губернях надзелы дзяржаўных сялян у выніку рэформы П. Д. Кісялёва былі павялічаны больш за ўсё? ______________________________

______________________________

______________________________

Заштрыхуйце іх прамымі рысамі.

2. У якіх беларускіх губернях адбылося найменшае змяншэнне павіннасцей дзяржаўных сялян у выніку рэформы П. Д. Кісялёва? ______________________________

______________________________

______________________________

Заштрыхуйце іх косымі рысамі.




Адзначце і падпішыце:

1. Лічбамі – суднаходныя каналы: а) Дняпроўска-Бугскі – 1; б) Агінскі – 2; в) Аўгустоўскі – 3; г) Бярэзінскую водную сістэму – 4.
2. Якарам у кружочку – марскія парты, якія выкарыстоўваліся для знешняга гандлю.
3. Чорным знакам „вагі“ – мытні.
4. Якарам – буйнейшыя рачныя прыстані ў беларускіх губернях.
5. Сіняй рысай – суднаходныя ўчасткі рэк.
6. Жоўтым кружочкам – буйныя транспартныя вузлы.
7. Першыя буйнейшыя шашы, якія былі пабудаваны ў Беларусі.

Адкажыце на пытанні, выканайце заданні:

1. На якой рэчцы Беларусі і калі з'явіўся першы параход? ____________________
Пазначце яе назву чырвонай рысай.

2. Па якіх рэках ажыццяўляўся гандаль з губернямі:

а) украінскімі? ____________________

____________________

б) прыбалтыйскімі? ____________________

____________________

Пазначце іх назвы на карце зялёным колерам.

# АДУКАЦЫЯ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРА БЕЛАРУСІ ў першай палове XIX ст.




Маштаб 1:4 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Карычневай рысай – межы Беларускай навучальнай акругі ў 1829–1850 гг.
2. Прамавугольнікамі – цэнтры навучальных акруг: а) Віленскай – чырвоным; б) Беларускай (з 1829 па 1836 гг.) – жоўтым.
3. Чырвоным ромбікам – гарады, у якіх дзейнічалі вышэйшыя навучальныя ўстановы.
4. Жоўтым трохвугольнікам – гарады, у якіх дзейнічалі езуіцкія калегіумы.
5. Сінім крыжам – гарады, у якіх былі адчынены кадэцкія карпусы.
6. Зялёным квадрацікам – горад, дзе быў створаны музей старажытнасцей.
7. Чырвоным пэндзлем – гарады, у якіх існавалі мастацкія школы.
8. Чорнымі кружочкамі – гарады Беларусі, у якіх былі пабудаваны крэпасці – помнікі ваеннага дойлідства.




**Маштаб 1:6 000 000**

Адзначце і падпішыце:

1. Сіняй рысай – мяжу тэрыторый, дзе паводле закону ад 16.V 1867 г. дзяржаўныя сяляне былі пераведзены на абавязковы выкуп (залічваліся ў разрад сялян-уласнікаў).

2. Пазначце рэдкай косай штрыхоўкай беларускія губерні, дзе надзелы былі павялічаны больш за 20 %.

3. Штрыхавымі гарызантальнымі рысамі – тэрыторыі з пераважным захаваннем землекарыстання: а) абшчыннага сялянскага – зялёнымі; б) падворнага – жоўтымі.

4. Рысамі – межы тэрыторый Беларусі, на якія распаўсюджваліся: а) „Вялікарасійскія палажэнні“ першай (нечарназёмнай) паласы – чырвонай; б) „Мясцовыя палажэнні“ для Беларусі і Літвы – зялёнай.

5. Карычневым колерам – тэрыторыі Расійскай імперыі, дзе прыгоннае права было скасавана ў пачатку XIX ст.

# ПАЎСТАННЕ 1863–1864 гг. У БЕЛАРУСІ




Маштаб 1:5 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Фіялетавай штрыхоўкай – тэрыторыі, на якіх паўстанцкія атрады пратрымаліся да 1864 г.

2. Сіняй рысай – мяжу тэрыторый, якія ў час паўстання былі падпарадкаваны віленскаму генерал-губернатару.

3. Зялёнай рысай – населеныя пункты, у якіх былі закрыты навучальныя ўстановы ў сувязі з паўстаннем.

4. Скрыжаванымі мячамі чырвонага колера з датамі – месцы найбольш значных баёў.

5. Сцяжкамі – месцы знаходжання: а) Цэнтральнага нацыянальнага камітэта – жоўтым; б) Літоўскага правінцыяльнага камітэта – чырвоным.

Адкажыце на пытанні, выканайце заданні:

1. Калі і кім быў выдадзены „Маніфест“ аб абвяшчэнні паўстання? ____________

____________

Пазначце на карце чырвонай рамкай горад, дзе гэта адбылося.

2. Калі быў выдадзены маніфест ЛПК аб падтрымцы паўстання, якое пачалося ў Польшчы? ____________

____________

Пазначце на карце зялёнай рамкай горад, дзе гэта адбылося.

3. Як называлася газета, якую выдаваў К. Каліноўскі з паплечнікамі? ____________

____________

Пазначце на карце знакам 🄇 месца, дзе быў выдадзены апошні нумар газеты.

4. Пазначце на карце крыжыкам горад, дзе быў пакараны смерцю адзін з кіраўнікоў паўстання К. Каліноўскі? Укажыце дату, калі гэта адбылося.

____________

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫ ПАДЗЕЛ БЕЛАРУСІ ў другой палове XIX – пачатку XX ст. СТАЛЫПІНСКІЯ РЭФОРМЫ Ў БЕЛАРУСІ




Маштаб 1:4 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Рысамі – межы генерал-губернатарстваў: а) Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага – зялёнай; б) усходнюю мяжу Варшаўскага – чырвонай.

2. Кружочкамі – цэнтры генерал-губернатарстваў і ваеннага губернатарства: а) Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага – зялёным; б) Мінскага – сінім; в) Прыбалтыйскага часовага – чырвоным.

3. Тэрыторыі беларускіх губерняў, у якіх доля сялянскіх гаспадарак, што выйшлі з абшчыны і перасяліліся на хутары і адрубы ў 1907–1915 гг., склала 35–50% – жоўтым колерам, 50–65% – блакітным.

Адкажыце на пытанні, выканайце заданні:

1. Напішыце, калі былі скасаваны генерал-губернатарствы:
а) Віцебскае, Магілёўскае і Смаленскае? ________
б) Віленскае, Ковенскае і Гродзенскае? ________

2. Калі і ў якіх беларускіх губернях былі ўведзены земствы? ________
________
________

Пазначце на карце гэтыя тэрыторыі кропкамі.

# РАЗВІЦЦЁ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БЕЛАРУСІ І СЯЛЯНСКІ РУХ У ПАРЭФОРМЕННЫ ПЕРЫЯД (60–90-я гг. XIX ст.)




**Маштаб 1:4 000 000**

Адзначце і падпішыце:

1. Штрыхоўкай – раёны з перавагай: а) капіталістычнай сістэмы ў памешчыцкіх гаспадарках – чырвонай; б) адпрацовачнай сістэмы ў памешчыцкіх гаспадарках – зялёнай; в) са змешанай сістэмай арганізацыі працы – сіняй.

2. Маленькімі крыжыкамі – паветы беларускіх губерняў, дзе адбыліся сялянскія выступленні, задушаныя з дапамогай войскаў.

3. Датамі – паветы, у якіх назіраліся найбольш масавыя сялянскія выступленні.

4. Спецыяльнымі значкамі – рэгіёны з пераважнай спецыялізацыяй сельскай гаспадаркі па вырошчванні: а) бульбы; б) канапель; в) ільну; г) па жывёлагадоўлі.

Адкажыце на пытанні, выканайце заданні:

1. У якой з беларускіх губерняў у 1887 г. ворных зямель было больш, чым у іншых губернях?

________________________________________

Пазначце назву губерні фіялетавым колерам.

2. У якой з беларускіх губерняў у 1887 г. лясных угоддзяў было больш, чым у іншых губернях?

________________________________________

Пазначце назву губерні блакітным колерам.

3. У якой з беларускіх губерняў у 1887 г. сенажацей было больш, чым у іншых губернях? ____________

________________________________________

Пазначце назву губерні жоўтым колерам.




Маштаб 1:4 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Зялёнымі кружочкамі – населеныя пункты, якія з'яўляліся цэнтрамі дробнатаварнай (рамеснай) і мануфактурнай вытворчасці.

2. Квадрацікамі з літарай Б – гарады, дзе былі адкрыты банкаўскія ўстановы.

3. Спецыяльнымі знакамі – гарады, дзе працавалі: а) тытунёвая фабрыка – ромбікам; б) алоўкавая фабрыка – трохвугольнікам; в) суднабудаўнічы завод – караблікам; г) папяровыя фабрыкі – крыжыкамі.

4. Чырвонай рысай – гарады, у якіх адбыліся палітычныя выступленні рабочых.

5. Сінімі зоркамі – населеныя пункты Беларусі, у якіх адбыліся буйныя хваляванні рабочых у час будаўніцтва чыгунак.

6. Чырвоным колерам – назвы населеных пунктаў Беларусі, у якіх адбыліся стачкі ў 1876–1900 гг.




Маштаб 1:4 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Зялёнымі значкамі – населеныя пункты, дзе былі заснаваны: а) асветніцкі гурток братоў А. І. і І. І. Луцкевічаў – трохвугольнікам; б) Беларуская сацыялістычная грамада – сцяжком.

2. Жоўтым сцяжком – населены пункт, дзе быў створаны Бунд.

3. Чырвоным сцяжком з датай – месца правядзення І-га з'езда РСДРП.

4. Аранжавымі трохвугольнікамі – населеныя пункты, дзе існавалі народніцкія гурткі ў 1870-я гг.

5. Чырвонымі трохвугольнікамі – населеныя пункты, дзе існавалі гурткі сацыял-рэвалюцыянераў (эсэраў).

6. Датай – горад, у якім была ўтворана першая нацыянальная палітычная партыя.

# РЭВАЛЮЦЫЯ 1905–1907 гг. У БЕЛАРУСІ




Маштаб 1:4 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Сцягамі – гарады, ахопленыя: а) Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачкай 1905 г. – жоўтым; б) Снежаньскай усерасійскай палітычнай стачкай 1905 г. – фіялетавым.

2. Чырвоным кружком з выявай вінтоўкі – населеныя пункты, дзе адбыліся выступленні салдат.

3. Перакрыжаваным чорным кружком – населеныя пункты, дзе адбыліся расстрэлы дэманстрацый і ўзброеныя сутыкненні працоўных з паліцыяй і войскамі.

4. Маленькімі крыжыкамі – паветы, у якіх адбываліся сутыкненні сялян з паліцыяй.

5. Сінімі значкамі – населеныя пункты, дзе дзейнічалі арганізацыі ліберальных партый: а) Саюз 17 кастрычніка – ромбікамі; б) партыі кадэтаў – трохвугольнікамі; в) Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі – квадрацікам.

6. Карычневай рысай – населены пункт, у якім адбыўся нелегальны з’езд настаўнікаў Мінскай губерні.

7. Чорнай рысай – гарады, у якіх у час рэвалюцыі адбыліся яўрэйскія пагромы.

## ПРАМЫСЛОВАСЦЬ І ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ ў пачатку XX ст.
## ШЛЯХІ ЗНОСІН БЕЛАРУСІ ў другой палове XIX – пачатку XX ст.




Адзначце і падпішыце:

1. Лічбамі з назвамі – чыгункі, якія былі пабудаваны ў:
   а) 1870-я гг. – чырвонай 1;
   б) 1880-я гг. – зялёнай 2;
   в) 1890-я гг. – жоўтай 3;
   г) 1900-я гг. – карычневай 4;
   д) 1910-я гг. – фіялетавай 5.
2. Блакітнай рысай – асноўныя водныя шляхі.
3. Якарам у кружочку – рачныя парты і прыстані.
4. Рысай – гарады, у якіх на 1897 г. пражывала:
   а) больш за 100 тыс. чалавек – чырвонай;
   б) ад 50 тыс. да 100 тыс. чалавек – чорнай.

Адкажыце на пытанні, выканайце заданні:

1. У якіх населеных пунктах Беларусі ў структуры прамысловасці пераважалі галіны:
а) дрэваапрацоўчая? ____________________

____________________

Пазначце іх на карце зялёным кружком.

б) металаапрацоўчая? ____________________

____________________

Пазначце іх на карце чырвоным кружком.

в) шкляная? ____________________

____________________

Пазначце іх на карце фіялетавым кружком.

г) гарбарная? ____________________

____________________

Пазначце іх на карце карычневым кружком.

2. У якіх населеных пунктах Беларусі існавалі буйнейшыя папяровыя фабрыкі? ____________________

____________________

Падкрэсліце іх на карце сіняй рысай.

# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ (1914–1917 гг.). ЛЮТАЎСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ 1917 г. У БЕЛАРУСІ




Маштаб 1:4 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Чырвонымі рысамі – лініі фронту: а) у канцы 1915 г. – суцэльнай; б) якая стабілізавалася ў канцы 1916 г. – пунктырнай.

2. Штрыхоўкай жоўтага колеру – тэрыторыю Расійскай імперыі, якая была акупіравана германска-аўстрыйскімі войскамі ў 1915 г.

3. Стрэлкамі – напрамкі дзейнасці войскаў у час Свянцянскага прарыву 1915 г.: а) германскіх – сінімі; б) расійскіх – чырвонымі.

4. Стрэлкамі – месцы правядзення вайсковых аперацый расійскіх войскаў: а) Нарачанскай аперацыі 1916 г. – жоўтымі; б) Баранавіцкай аперацыі 1916 г. – карычневымі; в) ліпеньскага наступлення 1917 г. – зялёнымі.

5. Чырвонымі рысамі – назвы гарадоў Беларусі, з якіх была праведзена эвакуацыя прамысловасці, стрэлкамі – накірункі эвакуацыі насельніцтва.

6. Сцяжкамі – населеныя пункты, дзе знаходзіліся: а) Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага расійскай арміяй – белым з літарай С і з датай; б) штабы расійскага Заходняга і Паўночнага франтоў – белымі з літарамі ЗФ і ПФ; в) штаб германскага Усходняга фронту – карычневым з літарамі УФ.

7. Падкрэсліце на карце чорнымі рысамі населеныя пункты, у якіх былі створаны першыя Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

8. Пазначце на карце чорнымі стрэлкамі напрамкі руху карнілаўскіх войскаў і крыжыкамі – месцы іх раззбраення.

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ ў другой палове XIX – пачатку XX ст.
# МЕЖЫ РАССЯЛЕННЯ БЕЛАРУСАЎ. БЕЛАРУСКІЯ ГАВОРКІ пачатку XX ст.




**Маштаб 1:4 000 000**

Адзначце і падпішыце:

1. Сіняй рысай – мяжу Віленскай навучальнай акругі з 1864 г.

2. Зялёнымі значкамі – месцы заснавання: а) аматарскага тэатра І. Буйніцкага – квадрацікам; б) беларускага музычна-драматычнага гуртка А. Бурбіса – ромбікам.

3. Чорнай рысай – населеныя пункты, дзе існавалі навуковыя таварыствы.

4. Значкамі – населеныя пункты, дзе існавалі: а) настаўніцкія інстытуты – чырвоным квадрацікам; б) настаўніцкія семінарыі – жоўтым кружком; в) духоўныя семінарыі – фіялетавым трохвугольнікам; г) кадэцкі корпус – жоўтым крыжам.

5. Квадрацікам з выявай газеты – населены пункт, у якім ў пачатку XX ст. друкаваліся перыядычныя выданні на беларускай мове.

6. Чырвонай рысай – межы рассялення беларусаў паводле М. Доўнар-Запольскага.

Адкажыце на пытанне:

Назавіце прозвішча беларускага дзеяча, які прадстаўлены на здымку. ______________________

______________________________________________

Як называлася карта, якую ён склаў у 1903 г.?

______________________________________________

______________________________________________

# ЗМЕСТ




Вучэбнае выданне

Змест і практычныя заданні распрацавалі: А. М. Лукашэвіч, А. Г. Каханоўскі
Карты складзены і падрыхтаваны да друку Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам „Белкартаграфія“ Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь у 2007 г., выпраўлены ў 2016 г.

Рэдактары: Г. С. Малышава, Л. А. Чарнышова
Тэхнічны рэдактар Н. М. Шэвель

Падпісана да друку 07.07.2016.
Фармат паперы 62х88 1/8.
Друк. арк. 2,5. Ум. друк. арк. 2,53.
Тыраж 20 000 экз. Заказ № 16/150

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства „Белкартаграфія“.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/30 ад 19.08.2013.
Пр. Машэрава, 17А, 220029, Мінск.
Тэл./факс: (017) 284-71-59, 334-81-54.
www.belkarta.by
www.белкартографія.бел
E-mail: belkartograf@yandex.by

Аддрукавана СП „Паліграфхаўз“ ТАА.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/77 ад 19.03.2014.
Вул. Якубоўскага, 51, 220018, Мінск.

ISBN 978-985-508-364-2


